*С. А. СІНЯК*

## БЕЛАРУСКІЯ СЕКЦЫІ РКП(б): КРЫНІЦАЗНАЎЧЫ АСПЕКТ

Представлен краткий обзор и анализ основных публикаций и материалов государственных архивов Беларуси и России, отражающих организационное оформление, культурно-просветительную, военную, агитационно-организаторскую деятельность и деятельность по становлению государственности Беларуси белорусских секций РКП(б) в Петрограде, Москве, Саратове, Тамбове и Тамбовской губернии, Минске, Казани, Одессе.

The materials from the state archives of Belarus and Russia and main publications that reflect the organization and activities of the Belarusian sections of the RCP(b) are reviewed and analyzed briefly in the article. The considerable possibility of comprehensive and detailed investigation of the cultural, educative, military, organizational, agitation and Belarusian nationality formation activities of the Belarusian sections in Petrograd, Moscow, Saratov, Tambov and the Tambov province, Minsk, Kazan, Odessa is established.

Беларускія секцыі РКП(б) існавалі нядоўгі час, але адыгралі прыкметную ролю ў працэсе нацыянальна-культурнага і нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі ў 1918–1919 гг. У цэлым гісторыя гэтых арганізацый вывучана слаба. Апублікаваны адзінкавыя, толькі найбольш важныя дакументы, таму для атрымання поўнага і дакладнага ўяўлення аб арганізацыі і дзейнасці беларускіх секцый РКП(б) неабходны зварот да архіўных крыніц. У дадзеным артыкуле зроблены агляд і кароткі аналіз асноўных публікацый і матэрыялаў дзяржаўных архіваў Беларусі і Расіі.

Разгледзім асноўныя публікацыі. Для поўнага разумення зместу, сутнасці і ўмоў дзейнасці беларускіх секцый РКП(б) пэўнае значэнне маюць пастановы, інструкцыі і цыркулярныя пісьмы ЦК РКП(б), што вызначалі рамкі і асноўныя напрамкі дзейнасці нацыянальных секцый увогуле, а таксама ўтрымлівалі аргументацыю пастаноўкі і вырашэння партыяй пытання аб нацыянальным аспекце партыйнага будаўніцтва. У свой час гэтыя дакументы сістэматычна публікаваліся ў такіх выданнях, як «Известия ЦК РКП(б)», часткова – «Жизнь национальностей».

Сярод усяго комплексу крыніц, датычных беларускіх секцый РКП(б) непасрэдна, найбольшую каштоўнасць мае, бадай, пратакол першай канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б) 21–23 снежня 1918 г.[1] Дзякуючы таму, што ўдзельнікі канферэнцыі ўпачатку дамовіліся не абмяжоўваць выступленні дэлегатаў часам і як мага больш поўна фіксаваць іх у пратаколе, змест апошняга дае адносна поўнае ўяўленне аб поглядах актывістаў секцый па пытаннях нацыянальна-культурнага, нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі. Далей, даклады дэлегатаў утрымліваюць звесткі аб працэсе арганізацыйнага афармлення секцый, колькасці членаў і спачувальнікаў, асноўных выніках культурна-асветніцкай і ваеннай працы сярод бежанцаў-беларусаў, узаемаадносінах з мясцовымі савецкімі і партыйнымі арганізацыямі. Нарэшце, пратакол змяшчае рэзалюцыю канферэнцыі па нацыянальным пытанні, палітычным становішчы Беларусі, узаемаадносінах паміж палітычнымі партыямі і стварэнні ў Беларусі рабоча-сялянскага ўрада, рэзалюцыі аб культурна-асветніцкай справе ў Беларусі, па пытанні стварэння Беларускай Чырвонай Арміі, сельскагаспадарчых камун у Беларусі, пастанову аб мабілізацыі беларусаў-камуністаў, вынікі выбараў у Цэнтральнае Бюро.

Каштоўнымі для вывучэння арганізацыі і дзейнасці ўсіх беларускіх секцый РКП(б) з'яўляюцца і артыкулы З. Х. Жылуновіча, надрукаваныя ў 1920-я гг. у часопісе «Полымя»[2], асабліва – для даследавання арганізацыі Петраградскай секцыі, арганізацыі і дзейнасці Маскоўскай секцыі. Характэрная рыса артыкулаў – высокая верагоднасць звестак, а часам і іх унікальнасць.

Важнай крыніцай для вывучэння гісторыі Маскоўскай і Петраградскай секцый з'яўляюцца газета «Дзянніца» (орган Белнацкама, а са снежня 1918 г. – і Маскоўскай секцыі) і часопіс «Чырвоны шлях» (орган Петраградскага аддзялення Белнацкама). Аналіз публіцыстычных артыкулаў гэтых выданняў дазволіць даследчыку вызначыць сістэму поглядаў лідараў беларускіх секцый па пытаннях беларускай дзяржаўнасці, шляху нацыянальнага адраджэння. Часам тут публікаваліся фрагменты платаколаў, рэзалюцыі сходаў Маскоўскай і Петраградскай секцый, высокай верагоднасці агульныя звесткі аб культурна-асветніцкай і ваеннай рабоце секцый сярод бежанцаў-беларусаў. Шэраг паведамленняў у «Дзянніцы» за перыяд з кастрычніка па лістапад 1918 г. даюць агульнае ўяўленне аб працы фракцыі камуністаў Белнацкама па стварэнні беларускай секцыі РКП(б) у Маскве.

Для даследавання гісторыі станаўлення беларускай дзяржаўнасці важнае значэнне мае пратакол надзвычайнага аб'яднанага пасяджэння калегіі Белнацкама, Цэнтральнага Бюро беларускіх секцый РКП(б) і камітэта Маскоўскай беларускай секцыі РКП(б) увечары 25 снежня 1918 г., падчас якога былі намечаны 15 кандыдатур у склад Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі[3].

Разгледзім архіўныя матэрыялы. Агульнай крыніцай для вывучэння гісторыі ўсіх беларускіх секцый з'яўляецца большай часткай неапублікаваная праца супрацоўніка Петраградскага аддзялення Белнацкама Я. С. Канчара «Из истории Гражданской войны в Белоруссии в 1917–1920 гг. (по личным воспоминаниям, записям и документам)», створаная ў 1936–1937 гг.[4] У 2-й главе працы аўтар коратка характарызуе асноўныя цэнтры беларускага левардыкальнага руху, у тым ліку – БСДРП, Маскоўскую і Петраградскую беларускія секцыі РКП(б), Цэнтральнае Бюро беларускіх секцый РКП(б). Характэрнай рысай гэтага агляду з'яўляецца вялікая колькасць фактаалагічных памылак: наконт колькасці секцый, часу іх стварэння, колькасці членаў, персанальнага складу, дат і адпаведных ім падзей. У той жа час аўтарам даволі поўна і дакладна вызначаны асноўныя задачы, мэты і вынікі дзейнасці секцый.

Найбольшая даследаванасць арганізацыі і дзейнасці беларускай секцыі ў Петраградзе ў параўнанні з іншымі беларускімі секцыямі абумоўлена наяўнасцю даволі вялікай колькасці як апублікаваных, так і архіўных крыніц. У фондзе № 1 «Петраградскі камітэт РКП(б)» Цэнтральнага дзяржаўнага архіва гісторыка-палітычных дакументаў Санкт-Пецярбурга захавалася 17 спраў Петраградскай беларускай секцыі агульным аб'ёмам каля 600 лістоў (справы 1348–1364), што ўсебакова і дакладна адлюстроўваюць дзейнасць секцыі ў перыяд яе найбольшай актыўнасці – з кастрычніка 1918 г. па люты 1919 г. Сярод гэтых дакументаў пратаколы агульных сходаў секцыі, бюро секцыі, агульных сходаў камуністаў-беларусаў, членаў культурна-асветніцкага клуба «Беларуская хатка», калектыву Беларускага камуністычнага атрада, загады па атраду, спісы членаў атрада, перапіска з рознымі савецкімі, ваеннымі і партыйнымі ўстановамі наконт адпраўкі членаў секцыі ў Беларусь для агітацыйнай работы, фарміравання і адпраўкі Беларускага камуністычнага атрада ў Беларусь і іншых пытанняў, анкеты 90 % членаў секцыі, поўныя спісы членаў і спачувальнікаў секцыі, членаў клуба «Беларуская хатка», рознага кшталту інструкцыі, мандаты, пасведчанні, заявы. Такі комплекс дакументаў дазваляе даследаваць адносна шырокі спектр пытанняў, звязаных з культурна-асветніцкай, выдавецкай, ваеннай, агітацыйна-арганізатарскай дзейнасцю і дзейнасцю секцыі па станаўленні дзяржаўнасці Беларусі: афармленне беларускай секцыі пры Петраградскім камітэце РКП(б), арганізацыя «Беларускай хаткі», беларускіх школ, Беларускага вольна-эканамічнага таварыства, падрыхтоўка вучэбных матэрыялаў для школ, стварэнне беларускіх воінскіх фарміраванняў (Беларускага камуністычнага атрада, Гродзенскага пяхотнага батальёна, батальёнаў у Магілёве, Віцебску і Мінску), канфлікт паміж беларускімі актывістамі Масквы і Петраграда і інш. Некаторыя матэрыялы наконт фарміравання Беларускага камуністычнага атрада апублікаваны[5], а таксама захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Санкт-Пецярбурга[6].

Дакументы, што асвятляюць папярэдні перыяд існавання беларускай Петраградскай секцыі пры Пецяргофскім райкаме РКП(б) з красавіка па кастрычнік 1918 г. захаваліся ў адносна невялікай колькасці, пераважна ў фондзе Белнацкама. У пісьмах І. В. Лагуна і А. Х. Усціловіча А. Р. Чарвякову аб рабоце Петраградскага аддзялення Белнацкама адпаведна ад 9 і 10 красавіка 1918 г. прысутнічаюць звесткі аб зліцці БСДРП з РКП(б), аб намерах фарміравання беларускіх палкоў у Петраградзе, склікання Усебеларускага з'езда[7]. Пратакол агульнага сходу секцыі ад 7 чэрвеня 1918 г., які прыняў рашэнне аб стварэнні каардынацыйнага органа беларускага левардыкальнага руху – Савета Белнацкама, разам з суправаджаючымі яго наказамі дэлегата ад секцыі ў Савет Белнацкама дае ўяўленне аб матывах і мэтах стварэння Савета, нормах прадстаўніцтва ў ім, а таксама аб некаторых акалічнасцях канфлікту А. Р. Чарвякова і У. В. Скарынкі[8].

Нават пры тым, што ніводнай справы Маскоўскай беларускай секцыі пры Прэсненскім райкаме РКП(б) не захавалася, усё ж тая акалічнасць, што дзейнасць секцыі цесна перапляталася з дзейнасцю Белнацкама і Цэнтральнага Бюро беларускіх секцый, функцыі якога яна выконвала, дазваляе

даволі поўна, але недастаткова падрабязна даследаваць яе гісторыю. Захаваліся дакументы, што тычацца спроб стварэння беларускай секцыі ў Маскве ў маі – ліпені 1918 г.: пратакол сходу камуністаў акупіраваных мясцовасцей Беларусі ад 25 мая 1918 г., што меў на мэце арганізацыю секцыі пры ЦК РКП(б), заключэнні па гэтым пытанні ЦК РКП(б) і К. І. Ландара[9], пратакол агульнага сходу беларускіх камуністаў пры Белнацкаме 28 ліпеня 1918 г.[10] Дакументы з фонду Белнацкама сведчаць, што пакуль ішло абмеркаванне пытання аб стварэнні секцыі ў ЦК, яе арганізатары лічылі магчымым заяўляць аб існаванні секцыі. Але секцыя не была зацверджана, і пытанне аб яе стварэнні заставалася адкрытым, што адлюстроўваюць дакументы фракцыі камуністаў Белнацкама[11], якая стала асновай для стварэння секцыі пры Прэсненскім райкаме РКП(б). Захаваўся пратакол арганізацыйнага сходу секцыі 3 лістапада 1918 г.[12], некаторыя пратаколы і пастановы пасяджэнняў бюро секцыі, нешматлікая, раскіданая по розных справах Белнацкама і фракцыі камуністаў перапіска з рознымі савецкімі і партыйнымі арганізацыямі. На аснове гэтых дакументаў даследчык можа атрымаць агульнае ўяўленне аб працы секцыі па скліканні канферэнцыі белсекцый РКП(б), арганізацыі беларускай секцыі ў Мінску, задачах, планах і практычных кроках секцыі па стварэнні беларускіх вайсковых фарміраванняў, агітатарска-арганізатарскай працы ў Беларусі. Для ўзнаўлення персанальнага складу секцыі выключнае значэнне мае запрашэнне на агульны сход секцыі 24 лістапада 1918 г.[13], на адваротным баку якога прысутнічаюць прозвішчы 21 члена секцыі (па стане на канец снежня 1918 г. секцыя налічвала 42 камуністы[14]). Адзначым, што як апублікаваныя, так і архіўныя матэрыялы даюць вельмі слабае ўяўленне аб дзейнасці Маскоўскай секцыі ў 1919 г. Узгаданыя артыкулы З. Х. Жылуновіча ў «Полымі» з'яўляюцца каштоўнай крыніцай толькі па гісторыі секцыі перыяду лістапад – снежань 1918 г.

Захаваўся даволі рэпрэзентатыўны комплекс дакументаў аб арганізацыі і дзейнасці беларускай секцыі РКП(б) у Саратаве. Асноўная частка захоўваецца ў Дзяржаўным архіве навейшай гісторыі Саратаўскай вобласці[15]. Сярод іх: пратаколы сходаў бежанцаў-беларусаў Саратава і Саратаўскай губерні, арганізацыйнага і агульных сходаў Саратаўскай беларускай секцыі, іншых сходаў камуністаў-беларусаў Саратава, перапіска секцыі з Саратаўскімі губернскімі арганізацыямі, беларускімі камуністычнымі арганізацыямі, анкета секцыі, анкеты членаў секцыі[16], спісы камуністаў[17], устаноў, падначаленых секцыі[18], табліцы з дадзенымі аб стане школ Саратава, у тым ліку беларускай[19], рознага кшталту пасведчанні, мандаты, заявы. Такі комплекс крыніц дазваляе атрымаць поўнае і дакладнае ўяўленне па цэламу шэрагу пытанняў: арганізацыйнае афармленне, персанальны склад і сацыяльна-псіхалагічны партрэт секцыі, агітацыйна-арганізатарская і культурна-асветніцкая праца сярод бежанцаў-беларусаў (арганізацыя Беларускага клуба, беларускіх школ, бібліятэк, багадзельні, нацыянальных і інтэрнацыянальных мітынгаў і вечарын), вярбоўка бежанцаў-беларусаў у Заходнюю дывізію (перш за ўсё – у Полацкі беларускі полк), камандзіраванне членаў секцыі ў Беларусь, канфлікт паміж старшынёй секцыі А. В. Пратакоўскім і эмісарам бежанскага аддзела Белнацкама ў Саратаве А. Е. Сцепанюком. Неабходна заўважыць, што звесткі аб дзейнасці Саратаўскай беларускай секцыі рэгулярна публікаваліся на старонках штодзённай «Саратовской Красной газеты» (па ўласных падліках аўтара, за перыяд з ліпеня 1918 г. па красавік 1919 г. апублікавана больш за 30 артыкулаў, паведамленняў, аб'яў з такімі звесткамі). Аднак нярэдка яны ўтрымліваюць несапраўдную інфармацыю, «апераджаюць» час, выдаюць планы за рэальна здзейсненае. Таму надзейнае дакладнае вывучэнне дзейнасці Саратаўскай беларускай секцыі магчыма толькі па архіўных матэрыялах.

Захавалася даволі няшмат дакументаў аб дзейнасці беларускіх секцый РКП(б) у Тамбове і Тамбоўскай губерні. Сярод іх перапіска Тамбоўскай беларускай секцыі РКП(б) з Тамбоўскім гаркамам партыі, Белнацкамам, Маскоўскай беларускай секцыяй наконт адкамандзіравання членаў секцыі ў распараджэнне Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі[20], заявы і пасведчанні гэтых членаў аб адпраўцы ў Беларусь[21], што даюць магчымасць часткова ўзнавіць персанальны склад секцыі. Пэўнае ўяўленне аб персанальным складзе і сацыяльна-псіхалагічным партрэце Тамбоўскай секцыі даследчык атрымае таксама з дадзеных анкет 7 членаў секцыі, што захаваліся ў фондзе ЦК КП(б)Б[22]. Некаторыя агульныя звесткі аб культурна-асветнай працы Тамбоўскай секцыі ўтрымліваюць справаздачы па бежанскаму аддзелу Белнацкама[23]. Уяўленне аб персанальным складзе і сацыяльна-псіхалагічным партрэце актыву беларускай секцыі г. Казлова даюць выяўленыя аўтарам 3 анкеты з калекцыі РДАСПГ[24], а таксама спіс (з біяграфічнымі данымі) членаў беларускай секцыі і беларусаў-камуністаў г. Казлова, якія былі накіраваны на працу ў Беларусь у лютым 1919 г.[25] Некаторыя звесткі аб дзейнасці Казлоўскай і Тамбоўскай секцый (персанальны склад, перамяшчэнні членаў, пастановы сходаў секцый і інш.) можна адшукаць таксама сярод агульнай перапіскі Белнацкама і ЦК КП(б)Б з рознымі партыйнымі і савецкімі арганізацыямі (адпаведна ф. 4 і 4п НАРБ). Што тычыцца дзейнасці іншых беларускіх секцый у Тамбоўскай губерні, аўтарам выяўлены пратакол арганізацыйнага сходу беларускай секцыі РКП(б) г. Спаска, што дае ўяўленне аб колькасным і персанальным складзе

секцыі і яе камітэта, планах будучай дзейнасці[26], а таксама даклад Лысагорскага валаснога камітэта РКП(б) Тамбоўскага павета ў ЦК РКП(б) аб арганізацыі і дзейнасці ў вёсцы Селязні Лысагорскай валасці Беларускай камуністычнай ячэйкі, з якога можна часткова даведацца аб часе стварэння секцыі, яе сацыяльным складзе, характары і змесце дзейнасці[27]. З улікам даклада дэлегатаў Тамбоўскай секцыі на канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б) можна сцвярджаць, што вельмі нешматлікія сведчанні аб дзейнасці беларускіх камуністычных ячэек у Тамбове і Тамбоўскай губерні даюць магчымасць толькі часткова ўзнавіць іх персанальны склад і рэканструяваць сацыяльна-псіхалагічны партрэт, атрымаць агульныя звесткі аб працэсе арганізацыйнага афармлення секцый, культурна-асветнай працы сярод бежанцаў-беларусаў і таму даюць слабае ўяўленне аб іх дзейнасці.

Слабае ўяўленне як на аснове апублікаваных, так і архіўных матэрыялаў можна атрымаць і аб арганізацыі і дзейнасці беларускай секцыі пры Мінскім райкаме РКП(б). Не захавалася ніводнай архіўнай справы гэтай секцыі, у адносна невялікай колькасці захаваліся і дакументы Мінскага райкама і губкама РКП(б). Аўтару ўдалося выявіць наступныя найбольш важныя сведчанні арганізацыі і дзейнасці Мінскай беларускай секцыі: выпіску з пратакола пасяджэння Маскоўскай секцыі 1 снежня 1918 г. аб камандзіраванні П. Г. Клыша і У. Раздзялоўскага для арганізацыйнай работы ў Беларусь[28], 2 анкеты членаў Мінскай секцыі У. Раздзялоўскага і У. С. Фальскага ў калекцыі РДАСПГ[29], нешматлікую перапіску з Мінскім райкамам і губкамам РКП(б) наконт узаемаадносін секцыі з гэтымі арганізацыямі, парадку прыёму членаў у секцыю, аб задачах і рамках дзейнасці секцыі, яе ліквідацыі, нешматлікую перапіску секцыі з рознымі беларускімі камуністычнымі арганізацыямі[30], пасведчанні членаў Петраградскай беларускай секцыі Р. Н. Шыманоўскага і А. К. Мядзвецкага аб камандзіраванні іх у распараджэнне Мінскай беларускай секцыі[31] і найбольш важны дакумент – заяву члена секцыі П. Г. Клыша ад 15 снежня 1918 г. у Паўночна-Заходні камітэт РКП(б) аб зняцці з парадку дня чарговага пасяджэння камітэта пытання «прынцыповага характару», якое абмяркоўвалася днём раней паміж П. Г. Клышом і В. Г. Кнорыным, з-за неабходнасці дадатковых перамоваў з членамі секцыі ў Мінску[32]. Ацэньваючы рэпрэзентатыўнасць азначаных дакументаў, неабходна ўлічваць даволі кароткі тэрмін існавання Мінскай секцыі (каля месяца), яе, па ўсёй імавернасці, нешматлікасць (10–15 членаў), а таксама тую акалічнасць, што з утварэннем ССРБ многія беларускія актывісты, у тым ліку члены Мінскай секцыі, апынуліся на высокіх дзяржаўных пасадах. Гэта абумовіла захаванасць даволі невялікай колькасці дакументаў секцыі. Яны разам са звесткамі пратакола канферэнцыі белсекцый РКП(б) і артыкулаў З. Х. Жылуновіча даюць толькі агульнае і мала дробязнае ўяўленне аб арганізацыйным афармленні, культурна-асветніцкай працы, а таксама дзейнасці Мінскай беларускай секцыі па станаўленні дзяржаўнасці Беларусі.

Падобна стану рэчаў з колькасцю і рэпрэзентатыўнасцю дакументаў па гісторыі Мінскай секцыі, кароткі тэрмін існавання беларускай секцыі пры Казанскім губкаме РКП(б) (месяц) і яе нешматлікасць (5 членаў падчас арганізацыйнага сходу) абумовілі захаванасць вельмі невялікай колькасці дакументаў па гісторыі гэтай арганізацыі: нешматлікай перапіскі Маскоўскай секцыі з яе членам А. А. Дзедзям, што быў накіраваны ў Казань у рамках працы па падрыхтоўцы першай канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б) і збіранні беларускіх камуністычных сіл[33], пратакола арганізацыйнага сходу Казанскай секцыі[34], адносін Казанскага губкама РКП(б) у ЦК РКП(б) наконт ліквідацыі секцыі[35], нешматлікай перапіскі секцыі з Казанскім губкамам РКП(б) па фінансавых і гаспадарчых пытаннях, а таксама з Белнацкамам аб вярбоўцы беларусаў-бежанцаў у Полацкі беларускі полк[36].

Доўгі час даследчыкі нацыянальных секцый лічылі, что пры партыйных арганізацыях Украіны асобныя беларускія секцыі не існавалі. У 1980-я гг. даследчык Сапун выявіў даклады прадстаўнікоў Украіны на Усерасійскай канферэнцыі членаў РКП(б) – ураджэнцаў Беларусі і Літвы – у сакавіку 1920 г. у Маскве, якія сведчаць аб існаванні асобнай беларускай секцыі пры Адэскім губкаме КП(б)У. Яна ўтварылася ў пачатку сакавіка 1920 г. і праіснавала ўсяго 3 тыдні, пасля чаго была аб'яднана з літоўскай, захаваўшы пры гэтым фактычную самастойнасць у культурна-асветніцкай дзейнасці[37]. Сярод дакументаў Цэнтральнага бюро літоўска-беларускіх секцый РКП(б) захаваліся, акрамя прыгаданых вышэй сведчанняў, таксама пратаколы секцыі і даклад яе актывіста П. В. Ільючонка ў Літоўска-Беларускі аддзел прапаганды пры ЦК РКП(б), што даюць поўнае ўяўленне аб арганізацыі і культурна-асветніцкай дзейнасці секцыі, яе колькасным і часткова – персанальным складзе[38].

Такім чынам, комплекс апублікаваных і архіўных матэрыялаў дазваляе ўсебакова і дакладна даследаваць культурна-асветніцкую, ваенную, агітацыйна-арганізатарскую дзейнасць і дзейнасць па станаўленні дзяржаўнасці Беларусі буйных і ўплывовых Петраградскай, Маскоўскай і Саратаўскай беларускіх секцый РКП(б), а таксама культурна-асветніцкую дзейнасць адносна нешматлікай секцыі ў Адэсе. У той жа час ні апублікаваныя, ні архіўныя крыніцы не даюць поўнага і дакладнага ўяўлення аб дзейнасці беларускіх секцый у Тамбове і Тамбоўскай губерні, а таксама нешматлікіх і існаваўшых нядоўгі час беларускіх секцый у Мінску і Казані.

[1] Гл.: Михутина И. В. К вопросу о провозглашении Советской Социалистической Республики Белоруссии // Славяноведение. 2008. № 4. С. 54–81.

[2] Гл.: Ж.Х.З. Уступамі да Акцябра // Полымя. 1923. № 5-6. С. 141–149; Жылуновіч З. Арганізацыя сіл (Да гісторыі Савецкай Беларусі) // Полымя. 1924. № 2 (10). С. 163–179; Жылуновіч З. Беларускія секцыі РКП і стварэнне Беларускай Савецкай рэспублікі // Полымя. 1928. № 10. С. 73–93.

[3] Гл.: Сташкевич Н. С., Шумейко М. Ф., Гесь А. Н. Обретение республики. История образования Белорусской ССР и создания Компартии Белоруссии в документах // Нёман. 1989. № 1. С. 118–119.

[4] Гл.: Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі (далей – РДАСПГ). Ф. 71. Воп. 15а. Спр. 1656.

[5] Гл.: Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918–1920 гг.: Сб. док. и материалов: В 2 т. Т. 1. Февраль 1918 г. – февраль 1919 г. / Сост. Э. Л. Козловская и др. Минск, 1968. С. 383–384, 388–389, 393–394, 452–453, 466–467.

[6] Гл.: Цэнтральны дзяржаўны архіў г. Санкт-Пецярбурга (далей – ЦДА г. Санкт-Пецярбурга). Ф. 75. Воп. 4. Спр. 2.

[7] Гл.: НАРБ. Ф. 4. Воп. 1. Спр. 14. Л. 32–33 адв.

[8] Гл.: НАРБ. Ф. 4. Воп. 1. Спр. 67. Л. 90–93.

[9] Гл.: РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 4. Спр. 95. Л. 1–9 адв.

[10] Гл.: НАРБ. Ф. 4. Воп. 1. Спр. 67. Л. 59–59 адв.

[11] Гл.: Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (далей – ДАРФ). Ф. Р-1318. Воп. 23. Спр. 31–33.

[12] Гл.: Цэнтральны архіў грамадска-палітычнай гісторыі г. Масквы. Ф. 3. Воп. 1. Спр. 48. Л. 2–3.

[13] Гл.: ДАРФ. Ф. Р-1318. Воп. 23. Спр. 31. Л. 20–20 адв.

[14] Гл.: Михутина И. В. К вопросу о провозглашении Советской Социалистической Республики Белоруссии // Славяноведение. 2008. № 4. С. 59.

[15] Гл.: Дзяржаўны архіў навейшай гісторыі Саратаўскай вобласці (далей – ДАНГСВ). Ф. 605. Воп. 1. Спр. 243–250; Ф. 27. Воп. 1. Спр. 450.

[16] Гл.: НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 23.

[17] Гл.: ДАНГСВ. Ф. 27. Воп. 1. Спр. 333.

[18] Гл.: Дзяржаўны архіў Саратаўскай вобласці (далей – ДАСВ). Ф. Р-329. Воп. 1. Спр. 26. Л. 26.

[19] Гл.: ДАСВ. Ф. Р-329. Воп. 1. Спр. 26. Л. 2–11.

[20] Гл.: Дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі Тамбоўскай вобласці (далей – ДАСПГТВ). Ф. П-840. Воп. 1. Спр. 340; НАРБ. Ф. 4. Воп. 1. Спр. 120.

[21] Гл.: ДАСПГТВ. Ф. П-840. Воп. 1. Спр. 340; НАРБ. Ф. 4. Воп. 1. Спр. 125.

[22] Гл.: НАРБ. Ф. 4п. Воп. 1. Спр. 23.

[23] Гл.: НАРБ. Ф. 4. Воп. 1. Спр. 12.

[24] Гл.: РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 4. Спр. 305. Л. 74, 75, 78.

[25] Гл.: РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 65. Спр. 48. Л. 49.

[26] Гл.: ДАСПГТВ. Ф. П-840. Воп. 1. Спр. 337.

[27] Гл.: ДАСПГТВ. Ф. П-840. Воп. 1. Спр. 342.

[28] Гл.: НАРБ. Ф. 4. Воп. 1. Спр. 15. Л. 156, 157.

[29] Гл.: РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 4. Спр. 236. Л. 111, 117.

[30] Гл.: Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці. Ф. 39п. Воп. 1. Спр. 30, 35.

[31] Гл.: ЦДА г. Санкт-Пецярбурга. Ф. 75. Воп. 4. Спр. 2. Л. 25, 26.

[32] Гл.: НАРБ. Ф. 59п. Воп. 1. Спр. 15. Л. 11.

[33] Гл.: НАРБ. Ф. 4. Воп. 1. Спр. 120.

[34] Гл.: Большевики Татарии в годы иностранной военной интервенции и гражданской войны (август 1918 – декабрь 1920): Сб. док. и материалов / Сост. Н.З. Замалеева и др. Казань, 1961. С. 132–133.

[35] Гл.: Переписка Секретариата ЦК РКП(б) с местными партийными организациями (январь – март 1919 г.). М., 1970. Сб. 6. С. 265.

[36] Гл.: Цэнтральны дзяржаўны архіў гісторыка-палітычнай дакументацыі Рэспублікі Татарстан. Ф. 868. Воп. 1. Спр. 43.

[37] Гл.: Сапун М. Н. Деятельность национальных коммунистических секций на Украине (1918–1920 гг.): Дис. … канд. ист. наук. Киев, 1986. С. 42.

[38] Гл.: РДАСПГ. Ф. 17. Воп. 63. Спр. 17. Л. 88; Спр. 35. Л. 4–10, 27–28.

Паступіў у рэдакцыю 14.10.11.

***Сяргей Аляксандравіч Сіняк*** – аспірант кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу. Навуковы кіраўнік – доктар гістарычных навук, прафесар У. Ф. Ладысеў.